Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 1 (35) Вільня, 1 студня 1939 г. Год IV

*З НОВЫМ ГОДАМ, З НОВЫМ ШЧАСЬЦЕМ!*

*Усім нашым Чытачом, Прыхільнікам і Прыяцелям перасылаем найлепшыя Новагоднія пажаданьні!*

*РЭДАКЦЫЯ і ВЫДАВЕЦТВА „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ“.*

## НОВАГОДНІЯ РАЗВАЖАНЬНІ.

На пачатку кожнага году людзі заўсёды ставяць пытаньне: што нам прынясе новы год? Каб адказаць на гэтае пытаньне, адны займаюцца часта прароцтвамі або проста стараюцца „адгадаць“ будучыя падзеі; другія-ж падыходзяць да справы інакш: яны стараюцца *пазнаць дзеючыя міжнародныя сілы, дасьледзіць іх кірункі* і на падставе гэтых досьледаў *зрабіць адпаведныя высновы*. Гэтак зрабім і мы.

Спаміж дзеючых у сьвеце сілаў на першым месцы бязумоўна трэба паставіць нацыянальную ідэю або г. зв. *нацыяналізм*. Гэту ідэю разумеюць розна: адны ўважаюць нацыяналізм за дынамічную сілу, свайго роду стыхію, якая дае народу ня толькі сведамасьць аб кроўнай і псыхічнай суцэльнасьці нацыі, але пануе волю адзінак да дзеяньня, да працы для дабра народу і наагул прабуджае ў народзе творчыя сілы (творчы нацыяналізм); другія разумеюць нацыяналізм як спосаб абароны свайго народу перад суседзямі (пасыўны або абаронны нацыяналізм); іншыя ўважаюць нацыяналізм за прыладу да пашырэньня ўплываў свайго народу на другія народы (імпэрыялістычны нацыяналізм), Ня будзем тут затрымлівацца над разнаякімі формамі і кірункамі нацыяналізму, а толькі сьцьвердзім аграмадны ўплыў яго на сучаснае палітычнае жыцьцё. Ня трэба хібаж гаварыць, што апошнія падзеі ў Сярэдняй Эўропе выплывалі якраз з нацыянальных ідэяў. Гэтыя ідэі пашыраюцца далей і захапляюць народы ня толькі ў Эўропе, але па ўсіх часьцінах сьвету. Словам, нацыяналізм зьяўляецца сяньня вялікай дынамічнай сілай, якая імкнецца да перабудовы палітычнага ладу.

Другой дынамічнай сілай, якая імкнулася і імкнецца да перабудовы сьвету, ёсьць *інтэрнацыяналізм*. Гэты кірунак людзі таксама разумеюць розна; ёсьць інтэрнацыяналізм камуністычны, соцыялістычны, хрысьціянскі і іншыя. Трэба прызнаць, што інтэрнацыянальныя ідэі панавалі да апошніх часоў, асабліва праз усё XIX стагодзьдзе і на пачатку XX-га аж да Вялікай вайны. Некаторыя тэорэтыкі інтэрнацыяналізму думалі, што ўзгадаванае на інтэрнацыянальных ідэях чалавецтва, асабліва пралетарыят, ваяваць паміж сабою ня будзе, але падасьць сабе рукі — і такім парадкам наступіць агульны мір і супакой. Аднак гэтыя думкі не апраўдаліся. Праўда, у часе Вялікай вайны былі спробы проціўваенных выступленьняў з радоў пралетарыяту (ў Францыі Жорэс, у Нямеччыне Лібкнэхт), але іх зьліквідаваў нацыяналізм. Ад гэтага часу нацыяналізм перайшоў у наступленьне і захапіў цэлы рад народаў, якія апынуліся без прастору або бяз волі. З гісторыі апошніх гадоў бачым, што нацыяналізм прыймаецца асабліва народамі паднявольнымі. Дзеля гэтай перамагаючай сілы нацыяналізму тэорэтыкі інтэрнацыянальных кірункаў пачалі паддаваць рэвізіі свае праграмы адносна нацыянальнага пытаньня і шукаць спосабаў пагаджэньня нацыяналізму з інтэрнацыяналізмам, але, як дагэтуль, без рэзультатаў. Ані ў Саветах, ані ў г. зв. дэмакратычных дзяржавах нацыянальнае пытаньне ня вырашана так,каб здаволіць „нацыянальныя меншасьці“. Дык нацыяналізм астаецца надалей дынамічнай і рэвалюцыйнай сілай, якая нясе сьвету палітычныя перамены.

Практычным высновам з нацыяналізму ёсьць *ідэя самаазначэньня народаў*. Гэта ідэя без нацыяналізму былаб немагчымай. Сфармуляваная ў часе Вялікай вайны нябожчыкам Вільсонам, ідэя самаазначэньня народаў уводзіцца цяпер у жыцьцё Гітлерам, што дало некаторым публіцыстам аказію назваць Вільсона Аллахам гэтай ідэі, а Гітлера яе прарокам. Аднак гэтае прыраўнаньне ня зусім правільнае. Трэба ведаць, што ідэя самаазначэньня народаў паўстала перад Вільсонам і Гітлерам, адначасна з нацыяналізмам. Абедзьве ідэі радзіліся з дэмакратычных ідэяў роўнасьці, волі і братэрства, кінутых у сьвет Вялікай французскай рэвалюцыяй. Дэмакратызм вясьціў роўнасьць, волю і братэрства людзям як адзінкам, а самаазначэньне вясьціць тоеж самае народам. Разам з ідэяй самаазначэньня народаў пачынаецца змаганьне паднявоканых народаў за „роўнасьць волю і братэрства“! Аж дзіва бярэ, што за такія рэчы трэба змагацца! Болей скажам — змаганьне за роўнасьць і волю народаў можа быць вельмі крывавым і можа цягнуцца доўгі час!

На грунце змаганьня нацыянальных і інтэрнацыянальных ідэяў стварыліся сяньня два вялізарныя блёкі, якія рыхтуюцца да сьмяротнага бою. Каб дайсьці да перамогі, нацыяналісты арганізуюць свае нацыі, ўводзяць нацыянальны тоталізм, выкідаюць з народнага арганізму чужыя элемэнты (жыдоў), пашыраюць свае ўплывы на другія народы. Інтэрнацыяналісты з свайго боку арганізуюць інтэрнацыянальныя сілы: фінансавыя, людзкія і матар'яльныя. Калі наступіць паміж гэтымі блёкамі бой, мы гадаць ня будзем (гэтага мусіць ня ведаюць і самі арганізатары блёкаў), адно толькі пэўнае, што гэты бой некалі наступіць. Гэта будзе бой адзін з найбольшых у гісторыі...

Вось з гэтакімі ідэямі і з гэтакімі прадбачаньнямі ўходзім у новы 1939 год. У ідэях нацыяналізму і самаазначэньня народаў крыецца глыбокі мотар сучаснага і будучага палітычнага жыцьця. Палітычныя падзеі, якія цяпер перажывае Эўропа, ёсьць толькі праявамі гэтых ідэяў. У 1938 годзе гэтыя ідэі да вайны не давялі, хоць яна была ўжо вельмі блізка, дзяржаўныя мужы, баючыся вайны, пайшлі на ўступкі, аж да зьмены граніц уключна (чаго звычайна без вайны не бывае), а што нам прынясуць гэтыя ідэі ў 1939 годзе?

На гэтае пытаньне адкажа сам 1939 год.

## Нямецкія пляны на Ўсходзе.

Дасьледваючы ўважна сяньняшнюю нямецкую палітыку, трэба прызнаць, што яна вызначаецца глыбока распрацаванаю плянowasьцю. Гэтую плянowasьць спасьцерагаем ва ўсіх кірунках: паўднёвым (Італія і Гішпанія), заходнім (Францыя і Англія) і ўсходнім (Балканы, Польшч, Літва, Саветы),

Мы ўжо пісалі ў адным з папярэдніх нумароў „Бел. Фронту“, што перад нямецкай палітыкай ляжаць два кірункі: адзін — **на мора**, г. зн. па калёніі, а другі — **на Усход** г. зв. „Drang nach Osten“. Мы тады казалі, што Нямеччына адначасна ў двух кірунках ня пойдзе, але выбярэ для сябе адзін кірунак. Калі выбярэ першы кірунак і пойдзе здабываць калёніі, яна будзе шукаць згоды на Усходзе; каліж выбярэ другі кірунак і пойдзе паводле плянаў Гітлера арганізаваць Усход, яна пашукае згоды на Захадзе. Змагацца на два фронты, так, як гэта было ў часе Вялікай вайны, Нямеччына цяпер ня будзе; за такое змаганьне Гітлер у сваей кнізе „Mein Kampf“ востра крытыкуе Вільгельма II. Паказчыкам, куды скіруецца Нямеччына, будзе... шуканьне ею згоды. Калі Нямеччына будзе шукаць згоды на Ўсходзе, гэта значыць, што кіруецца на Захад, каліж будзе шукаць згоды на Захадзе, гэта знак, што кіруецца на Усход...

Нямеччына цяпер шукае згоды на Захадзе, дык вывад з гэтага ясны. Праўда, Нямеччына часам успамінае і аб калёніях, але ў палітычных кругох пануе пракананьне, што гэта робіцца толькі з тактычных прычын. Сутнасьць гэтай тактыкі ў тым: Нямеччына заяўляе, што ёй патрэбны тэрыторыі дзеля эканамічнай і нацыянальнай экспансіі. Гэтым самым ставіць Англіі і Францыі такія жаданьні: або аддайце мне калёніі, або пазвольце ісьці на Усход. Аддаваць калёніяў ані Англія, ані Францыя ня хочуць (аб гэтым былі цьвёрдыя заявы англійскіх і французскіх дзяржаўных мужоў), значыць, прымушаны будуць згадзіцца на рэалізацыю ўсходніх нямецкіх плянаў.

Якія-ж гэта пляны?

Пляны новай нямецкай палітыкі былі сфармуляваны і прадстаўлены Гітлерам у першым выданьні ягонай праграмовай кніжкі „Mein Kampf“, выданай у 1927 годзе, калі яшчэ Гітлер здабываў уладу. У апошніх выданьнях, выйшаўшых у сьвет ужо ў той час, калі Гітлер быў пры ўладзе, гэтыя пляны прапушчаны. Зразумелая рэч, што Гітлер, як галава дзяржавы, ня можа пі-

